Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 28 (79). Вільня, Чацьвер 24 Сакавіка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Канфіската.

**№ 27 (78) „Сялянскай Нівы“, 6 старонак друку, які быў прысьвячаны сьвяткаваньню абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, па загаду камісара ураду на м. Вільню канфіскаваны за артыкулы: 1) перадавіца „Сьвяткаваньне“, 2) акт „Устаноўная Грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і 3) карэспандэнцыя з вёскі „Маладыя саколы“.**

## Аб беларускай мінуўшчыне.

Беларусы паходзяць ад старых славянскіх плямёнаў Крывічоў, Дрэговічаў і Радзімічаў. Гістарычнае жыцьцё Беларусаў пачынаецца з IX сталецьця. Беларусь тады была падзелена на некалькі невялікіх княстваў, сярод якіх, цэнтральнае месца займала вольнае Полацкае гаспадарства.

У гэтым перыядзе гісторыі Беларусі, дробныя беларускія княствы вельмі часта ваявалі паміж сабою, чым, бязумоўна самі сябе, узаемна адны другіх аслаблялі. Калі-ж на іх нападалі чужынцы суседзі, дык яны ня мелі сілы абараніцца ад іх і гэтакім чынам часта пападалі пад чужацкае панаваньне. Найчасьцей прыходзілася ваяваць з кіяўскімі князямі, якія забіраючы беларускія гаспадарствы, праганялі беларускіх князёў. Беларускія князі, у гэтакім выпадках уцякалі са сваімі дружынамі да Літвіноў, якія давалі ім прыстанішча пераймаючы ад Беларусаў іх культуру і г. д.

Беларускія князі ўцёкшы ў Літву, часта збіралі там ваенныя дружыны і выступалі ў барацьбу са сваімі ворагамі, але-ж дзеля таго, што і акупанты, кажучы па сучаснаму, былі продкі сучасных Украінцаў блізкіх Беларусам па нацыянальнасьці, дык гэтакія ваенныя выправы беларускіх князёў-уцякачоў з чужымі Літвінамі пасьпеху ня мелі, аж да таго часу калі маскоўскія, а ў тым і беларускія абшары падпалі пад татарскую няволю.

З часам Беларусы так зажылі ў Літве, што ўзялі перавагу над Літвінамі. Літоўскія князі часам прымалі ад Беларусаў хрысьціянскую веру і радніліся з Беларусамі. Дык цераз гэта беларуская мова памалу запанавала на Літве, яна там была тагды гаспадарсцьвенаю моваю. Карыстаючыся тым, што Татары заваяваўшы рускія гаспадарствы, пашлі дзесь на Паволжа і ніякай абароны не мелі на сваіх новых межах, Беларуска-Літоўскае гаспадарства паступова забірала адну частку Беларусі за другою, а пасьля так стала, што Беларуска-Літоўскае гаспадарства пашырылася аж да Кіява. Беларуска-Украінскі народ прыхіляўся да Беларуска-Літоўскага гаспадарства вельмі ахвотна, бо гэта вызваляла іх ад татаршчыны. І гэтак было ў працягу некалькіх сталецьцяў да часу князя Ягеллы, які ажаніўся з польскаю каралеваю Ядвігаю і стаў каралём Польшчы. Гэты выпадак стварыў саюз з Польшчаю, але-ж Беларуска-Літоўскае гаспадарства мела свайго князя і кіравалася сваімі законамі, якія пісаліся на беларускай мове. Некалькі разоў былі імкненьні да таго каб парваць усякую сувязь з Польшчаю, але-ж гэта не ўдавалася. Аднак-жа час рабіў сваё: просты народ ня меў тагды ніякіх правоў, над ім цалком гаспадарыла шляхта. Беларуская шляхта апалячывалася, дык ужо ёй ня трэ' было ніякай незалежнасьці. Люблінская вунія, якая адбылася 1 ліпня 1569 году фактычна скасавала Беларуска-Літоўскую дзяржаву. З таго часу пачалося ўводзіцца ўсе польскае і гэтакім чынам беларуская мова была выкінута з дзяржаўнага ўжытку; яна асталася толькі ў самых гушчах сярмяжнага народу.

Калі Польшчу падзялілі суседзі, дык Беларусь папала пад Расею. Пад расейскім панаваньнем Беларусі лепш ня было, бо аж да 1905 году, карыстацца беларускаю моваю ў друку было забаронена і толькі расейская рэвалюцыя 1905 году прынясла паднявольнай Беларусі маленькую льготу; з гэтага часу пачаліся друкавацца беларускія кніжкі і газэты.

Ад гэтага часу распачынаецца больш арганізаваны беларускі рух, які падрыхтоўвае фунданамт пад поўную незалежнасьць Беларусі.

Аднак-жа расейская лютовая рэвалюцыя, якая здавалася прыблізіла гэтае жаданьне да зьдзейсьненьня, прынясла новы падзел Беларусі на тры часткі.

Самая большая частка апынулася пад СССР, ды ізноў падзелена на дзьве часьціны. Першая з гэтых частак цалком русыфікуецца, бо ўсё там вядзецца парасейску і Расейцамі-ўрадаўцамі. Другая частка мае быццам асобную рэспубліку, але-ж гэта толькі на паперы, фактычна-ж Радавая Беларусь залежыць ад Масквы. Праўда, там пашырана беларускае пачаткавае школьніцтва і нешта робіцца адносна вышэйшых установаў. Але-ж уся тая праца не дае карысных вынікаў, дзеля таго, што вядзецца аднабока, пабальшавіцку. Беларусы пад Латвіяй, таксама маюць сетку беларускага пачаткавага школьніцтва, якое ўтрымліваецца на дзяржаўны бюджэт, а на'т ёсьць дзьве дзяржаўныя гімназіі. У найгоршым палажэньні справа школьніцтва находзіцца ў Польшчы дзе мы беларускіх школаў ня маем. Ня гледзячы на гэта нацыянальная сьвядомасьць пад Польшчай узмацоўваецца можа найбольш чымся ў іншых частках Беларусі, бо гэтаму якраз спрыяюць цяжкія ўмовы жыцьця і варожая палітыка, якую вядзе ўрад адносна Беларусаў.

# Гістарычныя падзеі і акты.

### 1-шы Усебеларускі Зьезд і Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Расейская лютавая рэвалюцыя абвесьціла самаазначэняне народаў расейскай імпэрыі. Карыстаючыся гэтаю магчымасьцю паўстала многа беларускіх нацыянальных арганізацыяў, якія вялі нацыянальную беларускую працу, кожная ў сваім коле, кожная мела свае нейкія асобныя компэтэнцыі. Беларускія арганізацыі паўсталі ў вайсковых аддзелах, у работніцкіх арганізацыях Расеі і г. д. І гэтак было ад лютага да сьнежня 1917 году, пакуль Менск, як асяродак Беларусі, ўзяў ініцыятыву і знача пры пасярэдніцтве менскіх арганізацыяў 17 сьнежня сабраўся першы Усебеларускі Зьезд у Менску, які складаўся ад прадстаўнікоў сялянскіх, салдацкіх і работніцкіх беларускіх арганізацыяў.

І-шы Усебеларускі Зьезд меў болей за тысячу прадстаўнікаў і затым меў поўнае аўторытэтнае права ворашыць аб долі Беларускага Народу.

Трэба адзначыць, што ў той час цягнулася яшчэ вайна з Немцамі, дык лічачы, што Беларусі цераз гэта пагражае падзел, Зьезд пастанаўляе станоўка не дапусьціць да гэтага, а ідучы сьледам тагочаснай палітычнай думкі згаджаецца, як праўны і самастойны сябра ўвайсьці ў склад Расейскай Фэдэр. Рэспублікі.

Але-ж у самай Расеі за гэты час здарыўся пераварот. Часовы Расейскі Урад, які дэкляраваў самавызначэньне народаў і фэдэрацыйны лад Расеі, капітуляваў перад бальшавікамі. Бальшавікі-ж захапіўшы ўладу ў свае рукі пашырылі гэтую ўладу і на Беларусь. А дзеля гэтага разагналі 1-шы Усебеларускі Зьезд ня даўшы яму выбраць Выканаўчы Орган Зьезду. У гэтакім выпадку істнаваўшая дагэтуль Беларуская Нацыянальная Рада, прэзыдыум Зьезду пастанавілі склікаць 2-гі Зьезд, а да часу сабраньня 2-га Зьезду абвясьціць сябе законным выканаўчым органам 1-га Усебеларускага Зьезду і папоўнішы свой склад прадстаўнікамі краёвых арганізацыяў, як беларускіх, гэтак сама і арганізацыяў іншых нацыянальнасьцей засяляючых Беларусь. Гэтакім чынам стварылася Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Карыстаючыся тым, што бальшавікі яшчэ не ўмацавалі сваей улады, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі памалу вяла сваю працу. І толькі калі Менск быў заняты акупацыйнымі войскамі, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі на паседжаньні 24 сакавіка 1918 г. пастанавіла, а 25 сакавіка таго году абвясьціла акт Незалежнасьці Беларусі. Тут ізноў Беларускай Народнай Рэспубліцы сталі на перашкодзе Немцы, якія нешта быццам абяцалі, але-ж нічога не давалі, аж пакуль самі Немцы не ўцяклі. Гэтак адно няшчасьце за другім нападалі на маладую Беларускую Рэспубліку, бо ў той час яе тэрыторыя стала арэнаю барацьбы мацнейшых народаў: расейскага і польскага. Яны захапілі ўсю тэрыторыю Беларусі і падзялілі яе цела на часткі, а Рада Беларускай Народнай Рэспублікі цераз гэта самае распалася. Тут ужо пашлі арыентацыі хто за ўсход, а хто за захад. Некаторыя-ж асталіся на сваім незалежніцкім нацыянальным грунце.

### Рэзалюцыі 1-га Усебеларускага Зьезду 17 сьнежня 1917 г.

Усебеларускі Зьезд у колькасьці звыш тысячы чалавек прадстаўленых сялянствам, салдатамі і работнікамі і ўсімі дэмакратычнымі арганізацыямі цэлага краю, абгаварыўшы цяжкое палажэньне ўсей Расейскай Дэмакратычнай Фэдэрацыйнай Рэспублікі і асабліва крытычны момант для Беларусі, прызнаў неабходным:

1) Замацоўваючы свае права на самаазначэньне, абвешчанае расейскай рэвалюцыяй і ўстанаўляючы дэмакратычны рэспубліканскі лад у межах Беларускай Зямлі, для ўратаваньня роднага краю і адсланеньня яго ад падзелу і адарваньня ад Расейскай Дэмократычнай Фэдэрацыйнай Рэспублікі, 1-ый Усебеларускі Зьезд пастанаўляе: зараз-жа стварыць са свайго складу орган краявое ўлады ў асобе Ўсебеларускае Рады Сялянскіх, Салдацкіх і Работніцкіх

Дэпутатаў, якая часова становіцца на чале кіраўніцтва краем, уступаючы ў жыцёвыя зносіны з цэнтральнею ўладаю, адказнаю перад Радай Работніцкіх, Салдацкіх і Сялянскіх Дэпутатаў.

2) Радзе, як часовай народнай уладзе ўва ўсім краю, даецца Ўсебеларускім Зьездам наказаць, вызначаючы яе правы, абавязкі і бліжэйшыя заданьні.

3) У аснову сваей працы Рада павінна ўзяць тыя рашэньні і пастановы, якія прыняты 1-м Усебеларускім Зьездам.

4) Для вырашэньня раду бягучых пытаньняў кіраваньня Беларусяй Ўсебеларуская Рада Сялянскіх, Салдацкіх і Работніцкіх Дэпутатаў павінна склікаць 2-гі Ўсебеларускі Зьезд, незалежна ад гэтага Рада з першага дня свайго паўстаньня прыймае неабходныя меры для хутчэйшага скліканьня Беларускага Ўстаноўчага Сабраньня, якое павінна вырашаць долю Беларускага Народу.

5) Рада сваім паўстаньнем канцэнтруе ў сабе ўсе функцыі адказнага, кіраваньня краем, гэтым заступае абавязкі якія дагэтуль выконваліся паасобнымі арганізацыямі.

6) У мэтах абароны нацыянальнага багацьця і захаваньня бяспечнасьці краю Рада прыймае меры, у згодзе з цэнтральнаю ўладаю, аб вывадзе польскіх легіёнаў з абшараў Беларусі і расфармаваньня іх у самым найкарацейшым тэрміне.

7) У мэтах стварэньня гарантыяў забясьпячаючых часовай рэвалюцыйнай уладзе ў краі выпаўненьня ўсіх пастановаў Зьезду, Рада прыступае да неадкладнай арганізацыі тэрытарыяльнага беларускага войска на шырокіх дэмакратычных асновах, ня робячы ўшчэрбку фронту.

8) Выканаўчым органам Часовай Краёвай Улады пасылаюцца свае прадстаўнікі, як да Цэнтральнай Усерасейскай Улады так і да ўсіх іншых Рэспублікаў Расейскай Фэдэрацыі, а так-жа для ўдзелу ў перагаворах аб міры, якія вядуцца, дзеля абароны суцэльнасьці і непадзельнасьці Беларусі і не адрываньня яе ад Расейскай Фэдэрацыйнай Рэспублікі і рэшты ўсіх прынцыпаў дэмакратычнага міру, абвешчанага Радаю Работніцкіх, Салдацкіх і Сялянскіх Дэпутатаў.

9) У зямельным пытаньні Рада павінна неадкладна фактычна перадаць усю зямлю з жывым і мёртвым інвэнтарам бяз выкупу ў рукі працоўнага сялянства цераз Зямельныя Сялянскія Камітэты.

10) Адносна да лясоў Часовая Ўлада павінна прыняць іх пад свой загад і цераз пасярэдніцтва мясцовых органоў Народнай Улады ўрэгуляваць правільнае выкарыстаньне іх толькі ў інтэрэсах працоўнага народу.

11) Рада павінна неадкладна прыняць самыя рашучыя меры да прыпыненьня расхапленьня некаторымі асобамі і групамі народных багацьцяў, а іменна: лясоў, народных маёнткаў і інш.

12) Рада павінна прыняць меры да неадкладнага ўстанаўленьня народнага кантролю над прамыслам і гандлем.

13) Рада забеспячае правільную і карысную працу мясцовых дэмакратычных органаў земскага і мястовага самаўраду.

14) пры ліквідацыі вайны Рада павінна прымаць меры да затрыманьня ваеннай маемасьці, якая находзіцца на тэрыторыі Беларусі у межах краю.

15) Створаныя камітэты эканамічныя і аб уцекачох знаходзяцца пад кіраўніцтвам Нацыянальнай Рады Беларусі.

### Рэзалюцыя Рады 1-га Усебеларускага Зьезду.

Абгаварыўшы пытаньне аб палажэньні 1-га Усебеларускага Зьезду і яго Рады, Рада па закрытым сваім паседжаньні 18 сьнежня 1917 года пастанавіла:

1) Лічыць 1-шы Усебеларускі Зьезд гвалтам разазнаным.

2) Рада Зьезду прызнаецца выканаўчым органам Зьезду, на абавязках якое ляжыць правядзеньне ў жыцьцё ўсіх рашэньняў і пастановаў Зьезду.

3) Папоўніць Раду Зьезду ад зямлячстваў і іншых групаў, якія дэлегавалі сваіх прадстаўнікаў са Зьезду ў Раду і даць права адводу, водкліку і кооптацыі.

4) Вобласны Камітэт пры Ўсерасейскай Радзе Сялянскіх Дэпутатаў, Вялікая Беларуская Рада, Часовае Беларуская Бюро і г. п. арганізацыі неадкладна спыняе сваё істнаваньне і перадаюць усе сваі справы і належную ім маемасьць у распарадак Рады.

5) Цэнтральная Вайсковая Рада істнуе, як падпарадкаваны орган Рады Зьезду.

6) 2-гі Усебеларускі Зьезд склікаецца ў самым кароткі працяг часу.

7) У мэтах павялічэньня аўтарытэтнасьці Рады і перадатачнасьці ўлады, прэзыдыўмам Рады павінен быць прэзыдыум Зьезду, папоўняны адным заступнікам старшыні і 2-ма сэкрэтарамі.

### Устаноўная Грамата да Народаў Беларусі.

У перыяд сусьветнай вайны, якая збурыла адныя моцныя дзяржавы і аслабіла другія, прасвулася Беларусь да гаспадарственага жыцьця. Пасьля трох з паловаю сталецьцяў нявoлі ізноў наўвесь сьвет гаворыць Беларускі Народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць:

Вялікае Народнае Сабраньне — Усебеларускі Зьезд 5 — 17 сьнежня 1917 г. рупячыся аб долі Беларусі, зацьвярдзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю Зьезду і ахоўваючы правы народу, Выканаўчы Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанавіў аб дзяржаўным складзе і правах і вольнасьцях яе грамадзян і народаў:

1) Беларусь у межах рассяленьня і лічэбнае перавагі Беларускага Народу абвешчаецца Народнай Рэспублікай.

2) Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчае Сабраньне Беларусі, скліканае на аснове агульнага, роўнага, простага, тайнага і прапарцыянальнага выбарнага права бяз розніцы роду нацыянальнасьці і рэлігіі.

3) Да таго моманту, калі зьбярэцца ўстаноўчае сабраньне Беларусі, законадаўчая ўлада належыць Радзе Усебеларускага Зьезду, папоўнянай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцей Беларусі.

4) Выканаўчая і Адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сэкрэтарыяту Беларусі, назначанаму Радай Усебеларускага Зьезду і перад ею адказнаму.

5) У межах Бяларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца свабода слова, друку, сабраньняў, забастовак, саюзаў, безумоўная свабода сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.

6) У межах Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнапраўнасьць усіх моваў народаў Беларусі.

7) У межах Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнай уласнасьці на зямлі касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым хто сам над ею працуе. Лясы, вазёры і нутры зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

8) У межах Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца максымальны 8-мі гадзінны дзень працы.

Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Зьезду, забавязуэмся быць на варце закону і парадку ў Рэспубліцы, сьцерагчы інтарэсы ўсіх грамадзіх і народаў Рэспулікі і ахоўваць правы і вольнасьці працоўнага народу, а таксама прыкласьці ўсе натугі, каб склікаць у найхутчэйшым часе Устаноўчае Сабраньне Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускай Зямлі заклікаем дапамагчы нам у нашай цяжкай і адказнай працы.

*Выканаўчы Камітэт*
*1-га Усебеларускага Зьезду.*

Дана ў Менску-Беларускім
9 сакавіка 1918 году.

## СЯЛЯНЕ!

Аб усіх крыўдах, аб зьдзеках адміністрацыі і аб вашым жыцьці пішыце ў сваю газэту „Сялянскую Ніву“.

# Паэтыцкае творчасьць Янкі Купалы.

*(З нагоды 20-летняга юбілею ягонай літэратурнай творчасьці: 1905—1925).*

### 1. Творчасьць лірыка-эпіцкая.

### V. „Безназоўнае“.

„З паняўшай славы быўшых дзён,
„З магільных прадзедавых крас,
„Пад стогн няволі, путаў звон,
„Мы зложым песьню, зложым сказ,
„А так агністы, як пажар,
„А громкі так, як грому ўдар“...

*Я. Купала.*

Ізноў праходзе некалькі год ад выхаду „*Спадчыны*“ (1922 г.) і вось, ужо ў 1925 годзе, зьяўляецца на паліцах кнігарняў, *апошні з дасюлешніх*, зборнік купалавых паэзыяў: „*Безназоўнае*“, выпушчаны ў сьвет праз г. з. „Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі“ ў Менску.

Зборнік гэты, раўнуючы да папярэдніх („Шляхам жыцьця“; „Спадчына“) — невялікі, у ім толькі 104 старонкі, затое ён багата выданы і адпавядае сучасным паняцьцям аб зборніку поэзыяў, ад якога вымагаюць: прыгожай вокладкі, добрай паперы, выразнага друку, ну і, прадусім зразумела, *ня шмат*, але цэннага літаратурнага зьместу.

Усі гэтыя вымогі „*Безназоўнае*“ здавальняе ў значнай меры.

На спэцыяльную ўвагу заслугоўвае каляровая вокладка, у рысунку якой модэрністычны стыль, спрытна злучаны з беларускімі народнымі ўзорамі, а гэтак-жа: добры, выразны друк зборніку з шырака, без эканоміі паперы, параскіданымі вершамі, дый рожныя тыпаграфічныя ўпрыгожаньні, павялічваючыя эстэтычнае здавоненьне чытача з кніжкі, ужо праз адзін толькі мастацкі яе выгляд.

А цяпер прыгледзімся крыху да самага яе зьместу, у першую-ж чаргу да спосабу раскадкі матар'ялу ў зборніку.

У процівагу таму, што мы бачылі ў папярэдніх зборніках песьняра, у „*Безназоўным*“ німашака падзелу на асобныя аддзелы і толькі, прыгледзіўшысь бліжэй, можна прыкмеціць ў ім дзьве асобныя групы вершаў: 1) палітычную (ст. ст. 1 — 37), і 2) мяшаную з рожнародным зьместам (ст. ст. 38—102).

І-шая група верша — „палітычная“, адпавядае аддзелу „вершаў патрыятычных“ у папярэдніх зборніках, назвалі-ж мы яе гэтак таму, што змест яе, відаць, каб угадзіць чырвоным валадаром, моцна запраўлены „камуністычна-пралетарскім“ сосам, якога мы ня бачылі ў яго раней. Да найбольш яскравых „кветак“ у гэтым сэнсе належаць гэткія вершы як: 1) *Арлянятам*“ (ст. 24),—прысьвячаны, як відаць са зьместу, беларускім „камсамольцам“, 2) „*Паззалі вас*“... (ст. 30), — усхваляючы лад і ганьбуючы буржуазную Эўропу, пісаны-ж з нагоды запрошаньня бальшавікоў на міжнародную канфэрэнцыю ў Гэнуі і 3) „*На сьмерць Сьцяпана Булата*“, нейкагась відаць беларускага „камунара“, бо ў прыпеўцы да гэтага вершу, усьцяж паўтаранцца фраза „Сьні, таварыш, аб Камуне!“ (ст. 34).

Вершы гэтыя маюць у сабе нештась прыкрае і ня смачнае і калі-б ня высокая тэхніка іх, дык вагульлі трудна была-б сабе ўявіць, што гэта піша Купала, а ня нейкісь Вольны ці Александровіч.

Дый ня дзіва, што гэтак чытаючы здаецца, бо й сапраўды ўвесь гэны камунізм ёсьць, ня скажам—фальшывы, але ў кожным выпадку—штучны, вымушаны, камбінаваны...

Найлепш сьведчыць аб гэтым ўступны верш „*Безназоўнага*“, зьмест якога наступны:

„...О так! Я—пролетар!...
„Яшчэ учорах раб пакутны —
„Сягоньня я зямлі ўладар
„І над царамі цар магутны!
„Мне бацькаўшчынай цэлы сьвет,
„Ад родных ніў я адвярнуўся...
„Адно... ня збыў яшчэ ўсіх бед:
„Мне сьняцца сны аб Беларусі“!

Вось-жа замест гэтага, сільнага ў сэнсе паэтыцкага выразу, вершыку, калі мы яго пераложам на штодзенную мову звычайных сьмяротных, будзе выглядаць больш-менш гэтак: „Прабаваў я, паночкі вы мае, зрабіцца камунарам-пралетарам і ўглядацца на справы беларускія з пункту гледжаньня космополітычна-інтэрнацыянальнага, але т'кі нічога ня вышла, бо ня здолеў я вырачыся зацікаўленьня беларускім адраджэнскім рухам дый усялякімі справамі беларускага народу і застаўся гэтакім-жа як быў, вышэйшым з народу беларускім інтэлігентам, радыкалам у пытаньнях клясавых, але, адначасна з гэтым, і адзінкай з выразным, нацыянальным творам!“

І вось, сапраўды, у іншых вершах гэтай групы бачым выразную, патрыатычную афарбоўку і пачынаем пакрысе пазнаваць старога Купалу.

Да гэткіх твораў прадусім належыць большая частка паэзыяў 10-ці вяршавога цыклю „*Безназоўнае*“ (ст. ст. 8—23), але і там ў патрыатычных тэмах нямала ёсьць пралетарскай надметкі ў постаці захваляньня бальшавіцкага ладу, а некаторыя вершы проста такі з'яўляюцца нейкімсь асаблівым сымбіозам гэтак процілежных пачуцьцёў як патрыатычнае і камуністычнае, у рэзультацьце чаго бачым *арыгінальны фэномэн*: ні то якісь *камуністычны, беларускі патрыатызм*, ні то *патрыатычны камунізм*! Зьявішча гэтае можна тлумачыць з аднаго боку анармальнымі ўмовінамі беларускага палітычнага жыцьця, з другога-ж—гэта, бязсумліўна, плод спрытнай, бальшавіцкай „нацпалітыкі“, у выніку якой шмат хто з беларукай інтэлігенцыі ў Менску, ды-й ня толькі ў Менску, прыхіліліся да гэткай хваравітай ідэолёгіі.....

„Яшчэ ня ўся работа зроблена,
„Ня ўсё жніво у нас пажата, —

# Нячуваныя зьдзекі.

Дня 16 г. м. атрымана тэлеграма ад п. Рагулі з Любчы, Наваградзкага п., у якой пасол наказвае аб галадоўцы 70 палітычных вязьняў у Наваградку на знак пратэсту проці катаваньня іх у дэфэнзыве. Разам з гэтым тэлеграма падае, што адзін з катаваных звар'яцеў. Па атрыманьні гэтай тэлеграмы Старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу пас. Ярэміч выслаў тэлеграму такога зьместу:

Віцэстаршыня Бартэль
Копія Міністру Справядлівасьці
Варшава.

У наваградзкім вастрозе семдзесят палітычных вязьняў галадуюць на знак пратэсту проці катаваньня ў дэфэнзыве. Вязень Парфіяновіч, здаецца, звар'яцеў. Прашу аб распараджэньні з мэтай ліквідацыі галадоўкі, а таксама і падняцьці сьледзтва.

* * *

Не пытай, не скажу я ні слова,
Дзе падзеўся з душы маей май,
Хай абхопіць маўчаньне грабова...
Не пытай, не скажу я ні слова,
Не пытай, не пытай...

Ня пытай, чаму вочы вагністы
Рруцца гэндзе*) ў далёкі той Край,
Дзе зіяе Ускод прамяністы,
Чаму рвуцца там вочы вагністы...
Не пытай, ня пытай

Ня пытай, не скажу я ні слова,
Дзе падзеўся з душы маей май,
Хай абхопіць маўчаньне грабова...
Не пытай, не скажу я ні слова,
Не пытай, не пытай...

*Фр. Грышкевіч.*

* гэндзе—там-там.

## Устава проці камуністых.

18 г. сакавіка Соймавая Канстытуцыйная Камісія разглядала прапазыцыю эндэкаў у справе ўставы проці камуністых. Некаторыя з паслоў выступілі проці гэтага праекту, іншыя хацелі каб праект пашырыць і на іншых асоб, што вядуць працу проці польскае дзяржавы. Дзеля таго, што ўсе новыя прапазыцыі пры галасаваньні адпалі, дык першы эндэцкі праект астаўся на парадку дня, а затым будзе ён разглядацца на наступным паседжаньні:

З вышэй паданага бачым, што Палякі яшчэ больш востра хочуць узяцца за „камуністых“, пад які назоў ахвотна падтасоўваюць наагул беларускіх актыўных працаўнікоў.

## Выпадак у канстытуцыйнай камісіі Сойму.

На паседжаньні канстытуцыйнай камісіі Сойму ў часе прамовы ўкраінскага пасла Хруцкага ў справе праектаў аб зьмене выбарнага закону, польскі пасол хадэк Сасінскі ўдарыў пасла Хруцкага ў грудзі. Украінскі соймавы Клюб пратэстуе проці гэтага барбарскага выпадку і кляйміць неразумны паступак польскага пасла.

## Скандал у рэдакцыі „Польскага Слова“.

У Львове, у рэдакцыі газэты „Польскае Слова“ здарыўся скандальны выпадак. Гэтая газэта зьмесьціла артыкул „Па вечныя часы“ ў якім апісвалася, што ў Львове Панская вуліца, тагды калі ў 1917 годзе была пераіменавана на вуліцу Бэм-Ермолі (па іменьні аўстрыйскага гэнерала), дык выступаўшыя прамоўцы на урачыстасьцях жадалі каб гэтае імя вуліцы асталося на заўсёды. Аж-но цяпер тая вуліца ўжо названа вуліцай Пілсудскага, дык, ізноў тыя самыя прамоўцы ў сваіх прамовах выяўлялі тыя самыя пажаданьні. За гэта заўлаваліся тры афіцэры польскае арміі, якія ўстроілі рэдактару газэты ў яго габінэце скандал хочучы адначасна ўдарыць радактара. Справа перадана Дырэкцыі Паліцыі.

## Умовы заграгічнай пазыкі.

„Dz. Wil.“ падае з Варшавы вестку, што ў справе амэрыканскай пазыкі, Амэрыка трымаецца сваіх першапачаткавых умоваў, а іменна дамагаецца кантролю над Польскім Банкам, над выданай пазыкаю і каб быў віцэ-дырэктарам Польскага Банку — амэрыканец.

Па думцы праф. Крыжаноўскага гэтыя ўмовы прыемлімыя, толькі, прыняць іх ён ня меў поўнамоцтва. У найбліжэйшых днях па вавароце п. п. Млынарскага і Крыжаноўскага маецца прыехаць у Варшаву прадстаўнік Моргана і перагаворы пайдуць далей. Не выключана, што польская дэлегацыя затрымаецца ў Лёндане дзеля паразуменьня з прадстаўнікамі Ангельскага банку. Магчыма што атрымаюць ангельскае жыро на амэрыканскую пазыку для Польшчы.

# З жыцьця пад Польшчай.

## Адносіны Польшчы да суседніх дзяржаваў.

У гутарцы з карэспондэнтам „Taegliche Rundschau“, міністар заграгічных спраў Залескі ў наступны болей-меней спосаб ахарактэрызаваў адносіны Польшчы да суседніх дзяржаваў: Разьвіцьцё супакойных адносінаў з нашымі суседзямі сьвеціць нам як зорка ў нашай палітыцы і дзеля гэтага ёсьць нашым пажаданьнем, каб гаспадарчыя адносіны з нашымі суседзямі, таксама і з Немцамі, сталі рухлівейшамі і бяз спрэчак. Немцы пэўна таксама ў гэтым зацікаўлены. Міністар спадзяецца, што спатканьне яго са Штрэзэманам выясьніць сытуацыю, даючы нам магчымасьць крок за крокам пасувацца па тым шляху, які сабе польскі ўрад вызначыў у добра зразумелых гаспадарчых інтарэсах свайго краю.

На запытаньне карэспандэнта аб сучасных адносінах да Радавай Расеі ў сувязі з пагалоскамі аб прыпушчальных ангельскіх пачынаньнях у мэтах пакіраваньня Польшчы проці Рад. Расеі, п. міністар сказаў, што Англія ніколі ніякіх крокаў на гэта не брала. Ангельскаму ўраду добра ведама, што пажаданьнем нашым ёсьць захаваньне спакою з Расеяй. Гэтак ёсьць у сутнасьці і пан міністар пры гэтым зазначыў, што ангельскі ўрад гэтае пажаданьне пахваліў. Парушыўшы справы агульнага значэньня „страху перад бальшавізмам“, зазначыў п. міністар, што дзяржавы блізкія да Расеі павінны найсільней адчуваць гэтую небясьпеку бальшавізму. Тымчасам сутнасьць прадстаўляецца наадварот. У дзяржавах безпасярэдна суседніх з Расеяй, агітацыя зьяўляецца найменш выніклівай. Нават абшары, якія праз нейкі час былі пад бальшавіцкай уладаю, сталі проста абароннаю сьцяною проціў тэй прапагандзе. Эўропа глядзіць цяпер, у шмат якіх выпадках, на небясьпеку бальшавізму цераз павялічанае шкло.

## Польшча і Літва.

Апошнімі днямі газэты падаюць дзівотныя весткі быццам Польшча шыкуецца да варужнага нападу на Літву. Быццам Польшча зьбірае свае вайсковыя сілы на Літоўскую граніцу. Польскі ўрад стараецца гэтыя весткі ліквідаваць лічачы іх фальшывымі. Пры гэтым польскі ўрад завярае прэсу і ўрады другіх дзяржаваў, што ніякіх замахаў на Літву не гатовіцца.

З другога боку газэты падаюць быццам Літва сьцягвае сваі аружныя сілы на польскую граніцу. І гэтая казачка ходзіць вакол ды ў сярэдзіну.

## Забастоўка ў Лодзі пашыраецца.

Урад запрапанаваў Лодзінскім работнікам што забаставалі і фабрыкантам, перадаць справу аб павышэньні заработнай платы на разгляд ураду, а пакуль-што забастоўку спыніць і ўзяцца за працу. Але-ж ня гледзячы на гэта абвешчана агульная забаст. з пашырэньням на ўсе галіны прамысловасьці і працы, акрамя шпіталяў, Касы Хворых і Ратунковай Помачы.

На канфэрэнцыі міністраў з прамысloўцамі апошнія заявілі, што ніякае падвышкі заработнай платы яны прызнаць ня могуць.

„Яшчэ краіны стан пагорблены,
„Як быў застаўся ён гарбатым...“

—кажа Купала ў 9-м (найлепшым) вершы цыклю „Безназоўнае“ („Безназоўным“ ахрышчвые тутака паэт беларушчыну ўва ўсіх яе праявах), а ў вершы 8-ым таго-ж цыклю прасьцерагае і навучае што:

„...Трэба многа яшчэ, многа тысяч
„Рук завабіць, рук спагадных,
„Каб да сонца з сонца сьцежку высеч
„І спачыць у снах прынадных.

„Бо цікуе злосны вораг
„Тых, што спыняцца ня ў часе
„У сваім паходзе ў зорах
„І задрэмлюць на папасе“.

Адзначым тут мімаходам, што гэткім ласьне выключна толькі *папасам этапам* на шляху да беларускага нацыянальнага вызваленьня з'яўляецца сучасная Радавая Беларусь, хоць некаторыя Беларусы, *выракаючысь ідэалу незалежнасьці*, і хацелі-б бачыць у ёй аканчальную разьвязку беларускага пытаньня.

Але вернемся да нашага агляду:

„Трэба, трэба дзён нямала тысяч
„З беларускім сэрцам, думай
„Мерыць сьветы, каб вышэй узвысіць
„Вызваленьне наша з глуму“...

канчае паэт свой верш, у якім найбольш знаменацельным і паказальным ёсьць зварот „з *беларускім сэрцам, думай*“, выяўляючы нацыянальны характар вершу, ня гледзячы на тое, што прысьвячан ён выпуску 1000-га нумару „*Савецкай Беларусі*“.

З іншых вершаў гэтага цыклю варта спыніцца над 5-ым і 6-ым у якіх Купала, *ідэалізуючы* сучасную Радавую Беларусь, прадстаўляе яе ў пастаці нейкась самастойнай, славянска-сялянскай дзяржавы казачных часоў, умела ўжываючы формы прымітыву; вось пара адрыўкаў з гэтых, вельмі цікавых з боку літэратурнага, вершаў:

„Беларусь на куце
„Ў хаце сваёй села, —
„Чарка мёду ў руцэ,
„Пазірае сьмела.

„Сядзіць важна, сама
„Сабе гаспадыня,
„І прыбрана яна —
„Ніхто не закіне:

„На галоўцы вянок
„З сініх васілёчкаў,
„А чырвон паясок
„Стан абвіў дзявочы“...

— кажа паэт ў вершы VI-ым цыклю, а ў V-ым знаходзім вось якія прыгожыя, сымбалічныя радкі:

„А гоні ўжо узораны
„І сілы распакораны
„Ад паншчынных бядот;
„Чакаюць стравы жораны —
„Зярнятаў не замораных,
„Чакаюць на ўмалот.

„А лапці і анучыны
„Адбэрсаны, адкручаны,
„Нуда маўчыць ціхом;
„Спраўляюцца заручыны
„Вясельніцы засмучанай
„З вясёлым жаніхом.

„Лявоніха... мяцеліца...
„Без памяці вяселяцца...
„—Гэй, дзьмі ў дуду дудар!
„Аколіца — аселіца
„Пад ногі сонцам сьцеліцца...
„Збудзіўся гаспадар!“...

На жаль! пакуль што, усё гэта толькі прыгожыя міражы!

Канчаючы гэтым агаварываньне цыклю „Безназоўнае“, спамянем тут яшчэ аб 1-ым вершы яго, цікавым з боку формы, а гэтак-жа выяўляючым польскія, літэратурныя ўплывы, якія чуваць і ў некалькіх іншых вершах гэтай групы, як напрыклад: „Б'юць на трывогу званы“... (ст. 27) і „З павяўшай славы“... (ст. 29).

З іншых вершаў І-ае групы зборніку заслугоўваюць на ўвагу: „*У вырай!*“ (ст. 6)—іскрысты, поўны магутнага размаху і юнацкага энтузыязму; „*З павяўшай славы*“... (ст. 29), — вызначны сілай пачуцьця і сьпеўнасьцю (пачатак яго далі мы ўперадзі нашага артыкулу); ўрэшце „*Адшчапенцам (заходнім)*“ (ст. 35), з'яўляючыся пяруновым актам абвінавачаньня для беларускіх рэнэгатаў.

Канчаючы гэтым агляд першае групы вершаў („вершы палітычныя“) зборніку „*Безназоўнае*“, дамо тут на астатак, спамянуты вышэй верш „*У вырай*“:

„Гэй, вольныя птахі, саколія дзеці!
„У вырай! Да сонца вясёлкавым
[шляхам!
„Час сонца схапіці і сонцам ірдзеці
„І зьведываць сьветы арліным
[узмахам.

„Гэй, вольныя птахі, патомкі
[Крычічаў!
„Да неба! па зоры і гром пяруновы...
„Час крыльле расправіць — пагудка
[ўжо кліча,
Ўжо віхры цярэбяць да шчасьця
[шлях новы!

„Гэй, вольныя птахі, ўладарнікі
[песьні!
„На шляхі, пад сьцягі красы
[і свабоды!
„Час выляцець к славе з пагібельнай
[плесьні
„І песьняй агністай дзівіці народы“.

*Я. Сьветазар.*

(Канчатак будзе).

